


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 27 (1114) ГОД XXII БЕЛАСТОК 3 ЛІПЕНЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## БОЎТРЫКІ

Калі я браўся за пісанне гэтага артыкула пра вёску **Боўтрыкі,** явілася мне вось такая сцэнка.

Па ўсхваляванаму малажавым ветрам Семянскаму вадасховішчу плывуць у лодцы два турысты-рыбаловы.

— Давай падамося ў той заліў, што з абодвух бакоў ахілены альшынаю, — кажа адзін з іх і паказвае рукой у напрамку паўночнага берага.

Яго напарнік доўга глядзіць на спакойны затон і заўважае:

— Кажаш, у Боўтрыцкі заліў паплывём...

— А чаму „Боўтрыцкі"?

— Бо там калісьці была вёска Боўтрыкі.

— Ладная хоць была?

— А нічагаватая сабе. Вуліцоўка са зграбнымі і ўтульнымі драўлянымі домікамі, чысценькімі падворкамі, дагледжанымі хляўцамі і клунькамі. Патанала ў густой садавіне. Вельмі гасцінныя, ветлівыя і памяркоўныя людзі жылі ў ёй...

Што ж, праіснавалі Боўтрыкі не так ужо і мала — звыш 250 год. З дакумента ад 1750 года вядома, што ўладальнікамі ляснога абруба ў той час былі пасечнікі **Васіль і Паўлюк Баўтрукі**. Назва кавалка лесу **„На Бару"** выразна сведчыць, што заснавальнікі сённяшніх Боўтрыкаў і іх нашчадкі доўгі час мелі тут значныя пасекі, бо абшырныя лясы ды наднараўскія лугі былі шчодрымі на ўзяткі нектару і пыльцы для пчолаў. Рака Нарва таксама не скупілася: у **Быстрыцы, Жыдоўскай Ямцы, Загрудаўцы, Кацялку, Шкопцы** і іншых тонях ды плёсах, а таксама ў рачулках **Лупляниы, Свінарэйцы** і **Чапчуроўцы** багата вадзілася рыба (акунь, бялуга, ёрш, карась, лінь, мянёк, плоць, сялява, шчупак, уюн, язь і інш.). Бралі яе **вершамі, кломлямі, сачкамі, вудамі,** а то і проста **рукамі,** ныраючы пад ваду і абмацваючы там кожную нару ў беразе. Але ж, вядома, пчалою ды рыбай не пракормішся.

І пад сякерай баўтручан паволі ды няспынна ўсё далей адступала колішняя **Свіслоцкая пушча,** а на яе месцы прасцерліся палеткі: **Высокі і Нізкі Груды, Пад Грушкаю, Падбрады, Падагульнікава, Паласачкі, Свінарэі, Сярэднія, Шырокія** і іншыя, а таксама лугі: **Заднікі, Падпаплавы, Паднарва, Паласачкі, Пагнілое, Чарчагі, Шылаўскае.** І ўсё ж цяжка было пражыць на тутэйшым пясчаным вузенькім загоне ды тоненькай палосачцы дрыгвястага лугу. А тут яшчэ і падаткі даймалі ды і на паншчыну ў Тарнопальскі маёнтак хадзіць трэба было. Таму якая б работа ў пушчы ці на рацэ не павярнулася, тутэйшыя сяляне ёю не грэбавалі. Каля вёскі быў „бераг" (г. зн. бяндзюга), дык хадзілі мужчыны да „качанкі" і „збіванкі" бярвення ў **пасы,** займаліся вывозкай з лесу, ганялі пасы-плыты па Нарве аж у Тыкоцін.

Боўтрыкі заўсёды баявыя былі: у міжваенны перыяд актыўна дзейнічала тут **ячэйка** Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, пад яе кіраўніцтвам працаваў **гурток** Грамады. Гэта ж і баўтручане былі сярод тых лясных рабочых і сплаўшчыкаў дрэва па Нарве,

(Працяг на стар. 4)



У промнях веснавога сонейка на вуліцы Боўтрыкаў.

ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

## ПРЫГОЖА НА СВЕЦЕ

Калі чалавек сядзіць цэлае жыццё на адным месцы, бы той грыб пад коранем, дык што ён можа ведаць аб божым свеце? Ніякія кніжкі, ні газеты, ні фільмы не пакажуць таго, што змог бы ён убачыць уласнымі вачыма.

Пераканаўся я ў гэтым, праехаўшы дзве з палавінай тысячы кіламетраў — ад Беластока да Дрэздэна ў ГДР.

Дачка з зяцем мяне ўладкавалі на краязнаўчую экскурсію. Мая Палашка найперш загаласіла, што куды мне, старому, у такую дарогу, што награшу я там, як сам Люцыфер, што паеду не паспавядаўшыся, а пасля вопратку святочную мне нарыхтавала, каўбас капчоных у чамаданчык паклала і шынкі сушанай таксама...

...Так і распачаўся для мяне гэты каляровы фільм, які прадаўжаўся амаль няспынна аж шэсць дзён. Шосты дзесятак гадоў жыву я ўжо на гэтым свеце і не падазраваў, не дадумоўваўся, што наша краіна такая багатая дзівамі рознымі, такая прыгожая і разнастайная.

Найбольш, вядома, цікавіўся я вёскамі, іх воблікам і планіроўкай. Асабліва радавалася маё сэрца, калі перад вачыма буйнымі хвалямі пераліваліся рунеючае ўжо жыта, калі бачыў я, як багата калосіцца пшаніца, як роўна перацвітае рапак, як узыходзіць бульба. Добры будзе ў нас сёлета ўраджай.

А вёскі... Прывык я да драўлянай хаты, у якой сам нарадзіўся і якую пасля вайны пабудаваў для ўласнай сям'і. І цяпер у нашых вёсках яшчэ пераважае драўлянае будаўніцтва. Хопіць аднак выехаць 100-150 кіламетраў за Беласток на захад — і ўжо няма ані драўляных хат, ані драўляных хлявоў, няма таксама і драўляных клуняў. **Польшча канца 70-х гадоў — гэта краіна мураваная.** Відаць гэта ўжо зараз жа за Беластокам. Тут найбольш будынкаў з белай сілікатнай цэглы. Гэта будоўлі апошніх гадоў. А вось на захадзе нашай краіны цэгла ўжо даўней сталася асноўным будаўнічым матэрыялам.

І пасевы. Тут загончык жыта, там аўса ці пшаніцы, а побач крыху бульбы і буракоў. Так яно прадстаўляецца ў нас на Беласточчыне, таксама і ў наваколлі Варшавы і ў Лодзінскім ваяводстве і яшчэ крыху далей. Для вока — гэта прыгожа, бо поле вабіць вочы поўнай вясёлкай колераў. Аднак калі падумаеш... гэта ж так рэкамендуе сябе раздробленасць нашай сельскай гаспадаркі. Мала гэтага на захадзе краіны і няма зусім у нашых заходніх суседзяў. Там, калі жыта, дык яму канца і края няма. Так і з ячменем, якога тут асабліва многа, і з аўсом і з бульбай. Едзеш кіламетр-два або і тры — і безупынку адно збожжа або іншая сельскагаспадарчая культура. А ўсё дагле-

(Працяг на стар. 4)

## МЫ НА СВАІМ

Здзіслаў **Карольчук** ужо трэці год кіруе дзейнасцю завадской партыйнай арганізацыі ў „Сяржана". 2.150 рабочых, у тым ліку 221 чалавек — у адміністрацыі, а 1.829 — непасрэдна ля станкоў. Прадпрыемства ў значнай меры фемінізавана, амаль 65 працэнтаў — гэта жанчыны.

— Сярэдні статыстычны ўзрост нашага рабочага, — заяўляе сакратар, — гадоў 35.

Здзіслаў Карольчук уласнай асобай пацвярджае гэтую „сярэднюю статыстычную". Малады, непаседлівы, энергічны чалавек, прадстаўнік каторага ўжо пасляваеннага пакалення „сяржанаўцаў" — рабочых ваўнянай прамысловасці.

Моладзь цяпер, вядома, вельмі патрабавальная. Абы-чым не задаволіцца. Але сярод 312 выпускнікоў прафесіянальных школ, якія свой рабочы стаж распачалі сярод „сяржанаўцаў", ледзь чатыры асобы рашылі пакінуць гэтую фабрыку.

— Юбілеі 20-25-годдзя няспыннай працы ў „Сяржана" маглі б мы спраўляць гуртам — амаль кожны дзень. Нярэдка адыходзяць ад нас на пенсію людзі, якія па 30-40 і больш гадоў са свайго жыцця аддалі нашаму прадпрыемству. Яны пакідаюць станкі, аднак глыбокае пачуццё адказнасці за сваю фабрыку, за добрае імя сяржанаўцаў у іх заўсёды астаецца. Бо мы — і тут, у „Сяржана", і на ўсіх іншых прадпрыемствах, **мы — на сваім. Няма на заводзе вышэйшай улады ад рабочага калектыву.**

— Якую тады ролю ў рабочым самакіраванні адыгрывае, на вашу думку, завадская партыйная арганізацыя?

**— Партыйная арганізацыя з'яўляецца асноўным звяном рабочага самакіравання.** Яна цесна супрацоўнічае з прафсаюзнай і маладзёжнай арганізацыямі. Гэтае супрацоўніцтва ажыццяўляецца штодзень у рамках кансультацыі дзеля развязкі канкрэтных, а неадкладных спраў, але **найбольш поўна яно праяўляецца ў час пленарных канферэнцый рабочага самакіравання. КСР**, бо так папулярна мы называем гэтыя канферэнцыі, як правіла, рашаюць самыя важныя для прадпрыемства праблемы. **Перш за ўсё гэта яны ўстанаўліваюць гадавыя і перспектыўныя планы.** У дзейнасці КСР прымаюць удзел рабочыя, прадстаўнікі рабочага калектыву, выбраныя сваімі сябрамі па рабоце. **Такім чынам ажыццяўляецца ў нас удзел рабочага класа ў кіраванні заводамі і прадпрыемствамі.**

Менавіта ў чэрвені на ўсіх прамысловых прадпрыемствах Беластоцкага ваяводства адбыліся, другія ў гэтым годзе, **канферэнцыі рабочага самакіравання.** Удзельнічала ў іх звыш 3,5 тысяч рабочых. Яны ацэньвалі тэмпы ажыццяўлення сваіх пастаноў са студзеня гэтага года і ўста-

(Працяг на стар. 4)

БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ — 77

**Аліна Юшкевіч з Гайнаўскага беларускага ліцэя заняла трэцяе месца ў групе салістаў у катэгорыі сучаснай песні. Фота К. Свідэрскага.**



## ШТО НОВАГА?

# Міна ў Індыйскім акіяне

Назва Дыега-Гарсія зноў прамільгнула на старонках многіх газет і ў паведамленнях замежных інфармацыйных агенцтваў. Справа ў тым, што не так даўно групе амерыканскіх і англійскіх журналістаў упершыню было дазволена агледзець востраў і азнаёміцца з будаўніцтвам, якое тут вядзецца паскоранымі тэмпамі.

Чым жа прыцягнуў да сябе ўвагу гэты маленькі атол, які згубіўся ў прасторах Індыйскага акіяна і нетаропка дрэйфаваў у акіяне часу?

Дыега-Гарсія — адзін з астравоў архіпелага Чагас, які знаходзіцца прыкладна ў цэнтры Індыйскага акіяна і, паводле выказвання былога камандуючага амерыканскім Ціхаакіянскім флотам адмірала Мак-Кейна, займае ў Індыйскім акіяне такое ж стратэгічна важнае месца, „як Мальта на Міжземным моры“. Яго плошча ўсяго 28 квадратных кіламетраў, ён мала населены. Тут ёсць добрая гавань і ўчастак, які падыходзіць для будаўніцтва вялікага аэрадрома. У час другой сусветнай вайны гэты востраў служыў заправачнай базай англійскага ваенна-марскога флоту.

Ваенныя, эканамічныя і палітычныя меркаванні правячых колаў абумоўліваюць імкненне ЗША і Англіі заняць ключавыя стратэгічныя пазіцыі ў Індыйскім акіяне, трымаць тут пастаянна ўзброеныя сілы, якія знаходзіліся б на варце імперыялістычных інтарэсаў. Вашынгтон і Лондан актыўна імкнуцца ствараць новыя базы ў гэтым раёне, прычым у такіх кутках, дзе іх існаванню менш пагражаў бы нацыянальна-вызваленчы рух, што неадольна развіваецца.

Першым такім пунктам і быў выбраны востраў Дыега-Гарсія. Гэта база павінна стаць звязваючым звяном у ланцугу баз, якія працягнуліся ад берагоў Японіі да Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі. „Па меры таго як вайна ў Індакітаі набліжалася да канца, — адзначаў ганконгскі штотыднёвік „Фар істэрн эканомік рэўю“, — Індыйскі акіян паступова выходзіў на першыя месцы ў спісах галоўных стратэгічных раёнаў“.

У 1966 годзе паміж Вашынгтонам і Лонданам было заключана пагадненне, згодна з якім амерыканцы атрымалі магчымасць выкарыстоўваць востраў для сваіх узброеных сіл на працягу 50 гадоў. Пентагон спачатку спрабаваў ахарактарызаваць стварэнне новай базы як „сціплы крок“, называючы яе „перавалачным пунктам“, „камунікацыйным цэнтрам“ і г.д. Аднак маштабы будаўніцтва ваенных аб'ектаў, якое разгарнулася тут, гавораць аб іншым. Паводле сведчання журналістаў, якія наведалі Дыега-Гарсія, „вялікі аб'ём работ служыць недвухсэнсоўным сведчаннем таго, што рыхтуецца штосьці значна больш грандыёзнае“. Землярыйныя машыны працуюць кругласутачна. Будаўнічыя брыгады асушаюць балоты і расчышчаюць мясцовасць, каб яшчэ на чатыры тысячы футаў падоўжыць узлётна-пасадачную паласу, якая ўжо дасягае васьмі тысяч футаў. Расшыраецца месца для стаянкі самалётаў. Адным словам, поўным ходам ідзе ператварэнне вострава ў буйную ваенна-марскую і ваенна-паветраную базу.

У той час, адзначала малагасійская газета „Атрыка“, калі прэзідэнт ЗША выступае з заклікам ліквідаваць усе ваенныя базы ў Індыйскім акіяне, будаўніцтва на Дыега-Гарсія працягваецца днём і ноччу — на яго затрачана ўжо 173 мільёны долараў. „Прэзідэнт ЗША заяўляе адно, — падкрэслівае газета, — а факты гавораць аб іншым“.

Ваенныя базы з'яўляюцца сёння адной з асноўных перашкод на шляху разрадкі напружанасці ў раёне Індыйскага акіяна, дзе пражывае больш чым палавіна чалавецтва. Мір тут можа быць умацаваны толькі тады, калі будзе ліквідавана гэта крыніца небяспекі.

Народы краін басейна Індыйскага акіяна адвяргаюць „астраўную стратэгію“ імперыялізму і выступаюць за мір і супрацоўніцтва.

В. Т.

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА**

# АБ САВЕЦКАЙ ДЭМАКРАТЫІ

Дэмакратыя — палітычнае, класавае паняцце, якое абазначае народаўладства. Хоць гэтае слова існуе ў людскім лексіконе многія вякі, аднак у розны час у яго ўкладваўся розны сэнс, зыходзячы з інтарэсаў пануючага ў грамадстве класа. Толькі Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя 1917 года аднавіла гуманны сэнс гэтага слова, якое выражае сапраўды народны характар улады Саветаў і ўсяго грамадскага жыцця краіны — эканамічнага, палітычнага, духоўнага, сацыяльнага, нацыянальнага, стварыла ўмовы для ўсебаковага росквіту асобы. Сацыялізм і дэмакратыя нераздзялімыя.

Гэты вывад XXV з'езда КПСС абаперты на шматгадовым вопыце сацыяльна-эканамічных перамен у СССР, пацверджаны сучаснай савецкай рэчаіснасцю. „Мы, — гаварыў з трыбуны Канферэнцыі камуністычных і рабочых партый Еўропы Генеральны сакратар ЦК КПСС Л.І. Брэжнеў, — стварылі грамадства, вольнае ад панавання манапалістычнай алігархіі, вольнае ад страху перад крызісамі, беспрацоўя, вольнае ад сацыяльнай беднаты. Мы стварылі грамадства людзей раўнапраўных у самым шырокім сэнсе гэтага слова, якія не ведаюць саслоўных, маёнткавых, расавых ці іншых прывілеяў, грамадства, якое не толькі дэкларуе правы чалавека, але і запэўнівае магчымасць іх выкарыстоўвання“.

Пабудова развітага сацыялістычнага грамадства ў СССР запэўніла савецкім людзям магчымасць карыстацца ўсімі сацыяльнымі здабыткамі, актыўна ўдзельнічаць у дзяржаўным, гаспадарчым і культурным будаўніцтве, развіваць свае здольнасці і таленты. Пры сацыялізме гарманічна спалучаюцца інтарэсы асобы, працоўнага калектыву і грамадства.

Крыніцай савецкай дэмакратыі з'яўляюцца: сацыялістычныя вытворчыя адносіны, якія абапіраюцца на сацыялістычную сістэму гаспадаркі, сацыялістычную ўласнасць на сродкі вытворчасці, свабоду грамадзян ад прыватнай уласнасці і эксплуатацыі, раўнапраўе сацыяльных груп, нацый і народнасцяў, мужчын і жанчын; палітычны лад СССР, сама сутнасць Савецкай дзяржавы, створанай самім народам і дзейнічаючай у яго інтарэсах, забяспечваючай і гарантуючай паспяховае паступальнае развіццё сацыялістычнай дэмакратыі.

Зыходзячы з гэтага, можна зрабіць вывад аб тым, што не можа быць „чыстай дэмакратыі“ або „дэмакратыі наогул“, аб чым пішуць буржуазныя ідэолагі. Аб дэмакратыі, як аб свабодзе, равенстве, можна гаварыць толькі канкрэтна, у прымяненні да пэўнага грамадскага ладу і дзяржавы.

Толькі сацыялізм забяспечвае сапраўдную дэмакратыю, бо дзяржава пры такім ладзе адлюстроўвае інтарэсы ўсяго працоўнага люду, а дзяржаўная ўлада нібы паглынаецца грамадствам.

Ажыццяўленне народаўладства грамадзянамі СССР забяспечваецца шырыня праў і свабод, якія дае ім і гарантуе савецкая канстытуцыя, адзінства праў і абавязкаў, сапраўдная свабода і грамадзянская адказнасць перад грамадствам.

Дэмакратызм савецкага грамадства знаходзіць сваё яркае ўвасабленне ў шматбаковай дзейнасці Саветаў дэпутатаў працоўных — самых прадстаўнічых органаў народаўладства.

Саветы тут з'яўляюцца органамі дзяржаўнай улады. Яны спалучаюць у сабе рысы дзяржаўнай і грамадскай арганізацыі. Дэпутаты ў іх выбіраюцца на шырокай дэмакратычнай падставе, працуюць бясплатна ў цеснай сувязі са сваімі выбаршчыкамі, могуць быць у кожную хвіліну адкліканы выбаршчыкамі на падставе закона. Саветы і іх органы працуюць публічна, адкрыта, пад кантролем народу. Усё гэта сведчыць аб іх грамадскім характары.

З другога боку, Саветы маюць права выдаваць абавязваючыя да выканання нарматыўныя акты, а ў выпадку неабходнасці прымяняць санкцыі. Саветы маюць вялікія матэрыяльныя рэсурсы. У іх апараце ёсць пастаянна працуючыя штатныя дзяржаўныя служачыя. Гэтыя прызнакі тыповыя для дзяржаўных органаў.

Важнай формай праяўлення дэмакратызму з'яўляюцца выбары органаў улады. Савецкае выбарчае права забяспечвае усеагульныя, роўныя выбары пры тайным галасаванні. Сам склад Саветаў гаворыць аб іх дэмакратызме і прадстаўніцтве народу. Так, у мясцовыя Саветы Беларускай ССР у 1975 годзе было выбрана каля 80 тысяч дэпутатаў, з іх 34,1 працэнта рабочых, 31,8 працэнта калгаснікаў, 34,1 працэнта служачых, мужчын 53,3 працэнта, жанчын — 46,7 працэнта, членаў і кандыдатаў у члены КПСС — 43,5 працэнта. За такі склад дэпутатаў галасавала амаль усё дарослае насельніцтва рэспублікі — 99,94 працэнта. Пры гэтым трэба ўлічваць і іншую важную акалічнасць: у БССР уся выбарчая кампанія рыхтавалася і праводзілася самім народам. У час выбараў мясцовых Саветаў Беларусі ў 1975 годзе было створана 86.830 выбарчых камісій, у складзе якіх працавала бясплатна 359.481 чалавек. Усяго ў Беларусі пражывае 9 мільёнаў 400 тысяч чалавек.

Адной з форм сацыялістычнай дэмакратыі з'яўляецца пастаяннае пашырэнне правоў Саветаў і іншых дзяржаўных органаў на месцах. З пашырэннем правоў мясцовых Саветаў павысіўся іх аўтарытэт і эфектыўнасць кіраўніцтва палітычным, гаспадарчым і культурным будаўніцтвам. Але, калі, з аднаго боку, правы Саветаў няўхільна пашыраюцца, дык, з другога боку, сфера іх адміністрацыйнага прымусу звужваецца.

Галоўным арганізацыйным метадам працы Саветаў у сучасных умовах з'яўляецца пераконванне, цярплівае высвятленне, заахвочванне да ўсяго перадавога, лепшага, з улікам мясцовых умоў і рэсурсаў.

*(Заканчэнне ў наступным нумары)*

**А. Галаўко**, доктар юрыдычных навук, прафесар.

*Наша галерэя*

Мінск, „Набярэжная“, лінагравюра Паплаўскай Н. М.

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota — 2.VII.** 9.00 Bajkowy poranek. 9.55 Pułapka — jug. dramat sens. 16.15 Program dnia. 16.20 Radzimy rolnikom. 16.30 Dziennik. 16.40 Żenia, Żenieczka i Katiusza — komediodramat radz. 18.00 Sport. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Kobiecy instynkt — ameryk. kom. krym. 22.10 Alibabki w Opolu — pr. roz. 22.55 Dziennik. 23.15 Krzyk strachu — ang. dramat sens.

**Niedziela — 3.VII.** 7.30 TTR — Zajęcia wakacyjne. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Sport. 9.00 Kino TDC: Przygody psa Cywila. 9.30 Antena. 10.00 Stare Kino. Arszenik i stare koronki. 12.00 Dziennik. 12.50 Rzeczpospolita muzyczna: Włocławek. 13.35 Dla dzieci. 14.10 Kot Felix — film anim. 14.20 Los. Dużego Lot. 14.35 Przerwany lot — pol. dramat psych. 16.00 Klub sześciu kontynentów. 16.45 Sport. 18.00 Tele-Echo. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Wszystko dla psów — kom. ang. 22.05 Lucjan Kydryński przedstawia Charlesa Treneta. 22.50 Sport.

**Poniedziałek — 4.VII.** 14.20 Program dnia. 14.25 Wakacyjne Kino Młodych. Czerwone berety. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Ręce z cegły — film dok. 17.00 Teleferie. 18.25 Janosik — serial TP. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. R. Frelek W. T. Kowalski „Odkrycie kart” odc. I widowiska „Przed burzą”. 21.50 Camerata. 22.30 Gdy zaczynaliśmy — pr. publ. 22.40 Dziennik.

**Wtorek — 5.VII.** 14.25 Program dnia. 14.30 Wakacyjne Kino Młodych. Znicz olimpijski. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio Młodych. 17.10 Kółko i krzyżyk. 17.25 Magazyn motoryzacyjny. 17.45 Inicjatywy. 18.15 W Starym Kinie. Ze świata burleski. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Rodzina Straussów — odc. ostatni serialu ang. 21.35 Świat i Polska. 22.10 Retroinspekcja czyli stare i nowe role W. Glińskiego. 22.45 Dziennik.

**Środa — 6.VII.** 15.30 Program dnia. 15.35 Wakacyjne Kino Młodych. Podziemny front. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Kto czyta nie błądzi — magazyn. 16.55 Los. Małego Lot. 17.10 Kino TDC. Tajemnicza wyspa. 18.05 Gdy zaczynaliśmy. 18.35 W teatrze przyrody — dok. film kanad. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Festiwal Piosenki Żołnierskiej Kołobrzeg 77 — Epos żołnierski. 22.45 Dziennik.

**Czwartek — 7.VII.** 14.30 Program dnia. 14.35 Wakacyjne Kino Młodych. Mam tu swój dom. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Waga. 17.00 Teleferie. 18.00 Poligon. 18.20 Opowieści reporterów — odc. I. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Sensacji. E. Wellace „Człowiek, który zmienił nazwisko”. 21.50 Festiwal Piosenki Żołnierskiej Kołobrzeg 77 — Koncert amatorów. 22.35 Dziennik. 22.50 Pegaz.

**Piątek — 8.VII.** 14.50 Pogram dnia. 14.55 Wakacyjne Kino Młodych. Sztafeta pokoleń. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zapraszamy na stadiony. 17.00 Lato z książką. 17.30 Suita o ziemi ojczystej. 18.10 Kopernik — odc. I filmu TP. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Festiwal Piosenki Żołnierskiej Kołobrzeg 77 — Premiery. 21.45 Teatr Małych form. A. Strindberg „Pierwsze ostrzeżenie”. 22.25 Poranek zmotoryzowanego turysty. 22.35 Dziennik.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 1.VII** — 8.30 Spektakl dla dzieci. 13.50 Film dla dzieci. 16.10 Lekkoatletyka. ZSRR—USA. 18.00 c.d. zawodów. 19.00 Nasza biografia. 20.30 Koncert.

**Sobota 2.VII** — 13.05 Film dla dzieci. 16.00 Lekkoatletyka. ZSRR—USA. 17.15 W świecie zwierząt. 18.15 Film fab. 20.30 c.d. zawodów lekkoatl. 21.30 Pr. estrad.

**Niedziela 3.VII** — 12.30 Film fab. 14.30 Koncert. 15.15 Panorama międzynar. 15.45 Film anim. 18.30 Pieśni liryczne. 19.00 Klub film. 20.30 Koncert. 21.50 Zawody wioślarskie.

## КІНО

**Białowieża** Eliza — pol. 5—6. Płonący wieżowiec — USA 7—8. Gra złudzeń — wł. 9—10.

**Bielsk Podlaski** Najlepsza w świecie pol. 5—6. Stara strzelba — fr. 7—8. Królowa pszczół — pol. 9—10.

**Czeremcha** Brytaniec w niebezpieczeństwie — ang. 5—6. Czerwone i białe — pol. 9—10.

**Czyże** Niewolnica miłości — radz. Zorro — wł. 6—10.

**Dubicze Cerkiewne** Ten cudowny piasek partyzanckich dróg — jug. Dulscy — pol. 6—10.

**Hajnówka** Alicja już tu nie mieszka — USA 3—4. Dziewczęta z Nowolipek — pol. 5—6. Moja wojna, moja miłość — pol. 7—8. Sekcja specjalna — fr. 9—10.

**Kleszczele** Wiosna panie sierżancie — pol. 5—6. Colargol na Dzikim Zachodzie — pol. 7—8. Hostessa — NRD 9—10.

**Michałowo** Policjanci — USA 5—6. Przeznaczenie ma imię Kamilia — czes. 7—8. Dom — jug. 9—10.

**Mielnik** Ostatnie zadanie — USA 6. Wynajęty człowiek — USA 9—10.

**Milejczyce** Nie ma dymu bez ognia — fr. Stróż plaży w sezonie zimowym — jug. 6—10.

**Narew** Rodzina — pol. Z własnej nieprzymuszonej woli — rum. 6—10.

**Narewka** Ojciec chrzestny — USA. Mój brat ma fajnego brata — czes. 6—10.

**Nurzec** Wdowa Coudero — fr. 5—6. Witia, Masza i morska piechota — radz. —8. Flic story — 9—10.

**Orla** Tak szalona, że może zabić — fr. Rudy lis — NRD 6—10.

**Rajsk** Brunet wieczorową porą — pol. Sandakan — jap. 6—10.

B.Z.Graf. Zam. 1542 B-4

## ТАК БЫВАЕ...

# УКАРАЦІЛА ЖЫЦЦЁ

Смерць не ашчаджае нікога: ні багатага, ні слаўнага, ні разумнага, ні прыгожага. Скошвае яна ўсіх — старых і маладых, добрых і ўрэдных, таленавітых і бяздарных. Але смерць смерці няроўная. Асабліва крыўдна, калі чалавек не памірае натуральнай смерцю. А ўжо зусім нязносна, калі ўкароціць жыццё блізкі чалавек, так як гэта было з Гаўрылам.

Пражыў ён сваё жыццё ў беспярэпыннай нязгодзе з жонкаю, якая была страшэнна сварлівай і задзёрнай. Чаплялася да ўсяго: не так ступіў, не так зрабіў, не так сеў, не так купіў і г.д.

Цэлае шчасце, што Гаўрыла быў працавіты, спакойны, уступчывы. Усе грошы, заробленыя на фабрыцы, аддаваў жонцы. На свае расходы, а таксама на пакупку сабе адзення і абутку Гаўрыла зарабляў пасля працы на фабрыцы. Пачаткова памагаў малярам. Пасля сам стаў такім-сякім маляром. Заўсёды хапала яму работы. І таму заўсёды ён меў свае грошы і часта прыносіў падрастаючай дачцы розныя гасцінцы.

Людзі наймалі Гаўрылу аднаўляць свае кватэры. Ён не даражыўся, не патрабаваў памочнікаў, выконваў работу дакладна. Людзі і заплацяць, і накормяць, і чарку паставяць. І часценька вяртаўся ён дамоў вясёленькі. Усім шапку здымае, дзецям суседзяў прынясе цукерак, ветліва паразмаўляе з сустрэўшыміся. Тады і „ядавітасць" жонкі абарочваў у жарты, і паслухмяны быў.

Любілі яго суседзі. З усімі жыў ён па-брацку. Але за гэта не зносіла яго жонка, ненавідзела яго дабратлівасці, жартаўлівасці, вясёласці. Выганяла тады яго з хаты, а часам са сходаў спіхала. Ад маці навучылася зневажаць бацьку і дачка.

Калі дачка вышла замуж і зяць стаў жыць у хаце Гаўрылы, шмат чаго змянілася. Зяць палюбіў цесця, які ў той час перайшоў на пенсію. І калі пачнуць іх жонкі „жаваць", разам выходзілі з хаты.

Аднойчы Гаўрыла, закончыўшы маляванне адной кватэры, вяртаўся пад хмяльком дахаты. На лесвіцы спаткаў дачку і заспяваў: „Ох ты, дочанька мая". А дочанька дрыгянула бацьку так, што, падаючы са сходаў, зламаў ён пазваночнік і страціў прытомнасць. Дачка да яго не падышла. Замкнулася ў хаце і нікому не адчыніла дзвярэй. Суседзі выклікалі хуткую дапамогу, якая адвезла яго ў бальніцу. Гэты факт усхваляваў суседзяў. Яны перасталі гаварыць з дачкою Гаўрылы. Наведваючы яго ў бальніцы, даказвалі, што неабходна пакараць за гэта дачку згодна з законам. Бацька не згаджаўся. Тады суседзі самі заявілі аб гэтым здарэнні у міліцыю. У бальніцу да Гаўрылы прыйшоў следчы. Але Гаўрыла затаіў віноўнасць дачкі і аправерг усе доказы суседзяў. Стан яго пагаршаўся. Ён сам разумеў, што смерць ужо недалёка. Прагна чакаў дачкі, якая не паяўлялася. Калі ўжо ўсім было вядома, што дні Гаўрылы палічаныя, прыйшла дачка са сваімі прыяцелямі ў ізалятку Гаўрылы. Калі яе ўбачыў бацька, дык так разжаліўся, так расхваляваўся, што ўпершыню ў жыцці пацяклі ў яго слёзы. І бацька не мог адазвацца. Адняло ў яго мову, а праз 15 мінут перастала біцца яго сэрца.

На пахаванне прыйшлі ўсе сваякі — старыя і малыя, усе суседзі і чалавек 20 з фабрыкі, ды ўсе з кветкамі. Найбольш перажываў зяць. І плакаў найбольш. Цішком плакалі суседзі. Не зрасіліся толькі вочы дачкі і жонкі. Зяць сардэчна людзям падзякаваў, што так многа іх прыйшло, каб ушанаваць яго добрага цесця. А пасля пахавання заявіў ён жонцы ў прысутнасці маці, што з забойцам бацькі ён жыць не будзе. І пакінуў ён хату сварлівых баб, якія ўкарацілі жыццё яго цесця.

**Міхась Сваяк**

# Паўтара года без даху

Паводле планаў беластоцкай кураторыі, у Клюковічах павінна быць зборная гмінная школа. Ужо ў гэтым навучальным годзе вучылася тут 139 дзяцей. Вучылася. Але ў наступным навучальным годзе дзеці з вёскі Такары вернуцца ў сваю былую школу, бо ў Клюковічах і сваім няма дзе падзецца.

Школьны будынак, хоць з выгляду саліднцы, будаваўся яшчэ перад вайной і даўно ўжо патрабуе капітальнага рамонту. Як расказваюць дзеці і настаўнікі, зімой у класах так холадна, што на класнай дошцы, калі яе выцерці мокрай анучкай, творыцца лёд. Дзеці і настаўнікі сядзяць у паліто, шапках і нават рукавіцах.

Да таго ж яшчэ, тры гады назад, калі вызначалі клюковіцкую школу на зборную, вырашылі дабудаваць яшчэ адно крыло да будынка, далучыўшы яго да галоўнага праз будынак, дзе жылі настаўнікі. У дабудаваным крыле былі б дадатковыя класы, гімнастычная зала, працоўні для практычных заняткаў, сталоўка і кватэры для настаўнікаў.

Дырэктар школы Анатоль Ярцэвіч, поўны запалу да ўпарадкавання школьнага будынка, узяўся ездзіць і збіраць па ўсёй краіне будаўнічыя матэрыялы, не лічыўся са сваім водпускам, сам грузіў на машыну цэглу, пустакі і нават нярэдка плаціў з уласнай кішэні тым, што хацелі яму памагчы. І за той летні сезон, г.зн. ад 10 ліпеня да кастрычніка, вараслі сцены новага будынка.

І тут — стоп! Будаўнікі стрымалі працу — забракла нейкіх там дробных жалезных элементаў.

Каб пачаць новы веснавы сезон наступнага года, прыехала камісія, у тым ліку і прадстаўнік куратарыі па справах інвестыцый, агледзелі і паехалі. Потым з'явіліся будаўнікі, выкватэравалі настаўнікаў з іх кватэр, знялі дах, разваліліі там, што можна было, і паехалі. З таго часу ніхто іх больш не бачыў.

Пакідаўся, пакідаўся дырэктар школы, ды таксама заціх — сілы вычарпаліся. У гэтым годзе дырэктар Ярцэвіч павінен яшчэ абараніць магістэрскую работу. Дзе ж сіл набрацца на ўсё?

У сакавіку гэтага года мінуў год, як абодва будынкі — стары і новы, стаяць без даху, аддадзеныя на разгул дажджу, ветру і марозу. Марнуюцца пад адкрытым небам сабраныя будаўнічыя матэрыялы. Настаўнікі гнездзяцца ў прыватных вясковых хатах, а куратарыя плаціць за гэта па 2400 злотых у месяц. Колькі гэта ўжо назбіралася за паўтара года? А канца не відаць.

На пляцы будовы далей пусткі, калі не лічыць дзяцей, якім вельмі падабалася гуляць тут у хованкі: паміж разбуранымі будынкамі, скірдамі цэглы, дошак, пустакоў, па падвалах — дзе можна лепей схавацца? А коўзанкі на горцы жвіру? Не памагае і тое, што настаўнікі і дырэктар без перастанку ганяюць малых з небяспечнага месца. А што будзе, калі настаўнікі паедуць адпачыць?

Паўтара года на пляцы нічога не робіцца. І столькі ж часу ніхто з улад ані школьных, ані нават гмінных не паказаўся тут. Ці ж гэта іх не цікавіць? Ці куратарыі ўсё роўна, на што і за што плаціць грошы? Ды і начальнік гміны, каб толькі захацеў, нямала мог бы дапамагчы школе. Гэта ж у яго гміне дзеецца, дзе таксама няма нават месца на гмінныя сходы. А ў адрамантаванай школе знайшлося б месца і для гэтага.

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара



**Паўтара года назад з гэтага будынка знялі дах і вынялі вокны.**

# БЕЛАСТОЦКАЕ ПЧАЛЯРСТВА

Мала хто з нас ведае, што на абшары 924 тысяч гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў і лясоў, якія ахоплівае сваім абсягам Беласточчына, знаходзіцца амаль 3 тысячы пасекаў са звыш 30 тысячамі вулляў. Калі ўзяць ва ўлік, што на Беласточчыне жыве звыш 630 тысяч чалавек насельніцтва, дык разлік тут просты: на кожную 21 асобу прыходзіцца адзін вулей. І тут аж просіцца яшчэ адзін лік: кожная пчаліная сям'я летам складаецца ў сярэднім з 70 тысяч пчол, значыць на кожнага з нас прыходзіцца каля 3300 пчолаў. Ну, калі б раптам ім уздумалася сесці на нас і ўджаліць!.. Але гэтыя надта карысныя насякомыя рэдка калі маюць ахвоту на джаленне, затое ад світання і да змяркання працуюць як... пчолы. Беластоцкія пчаляры збіраюць у сярэднім у год каля 330 тон мёду і звыш 9 тон воску, значыць кожная пчаліная сям'я дае каля 11 кг гэтага духмянага дэлікатэсу. Не скажам, каб гэтага было надта многа: на статыстычнага жыхара нашага ваяводства прыходзіцца ўсяго паўкілаграма ў год.

Зразумела, што гэта не можа нас задаволіць, бо пчолы не толькі даюць нам мёд ды воск, але, як вядома, апыльваючы шматлікія расліны, значна павышаюць ураджаі многіх сельскагаспадарчых культур. Таму нашыя сельскагаспадарчыя ўстановы і арганізацыі прыкладаюць намаганні, каб павялічыць колькасць пчаліных сем'яў і пасекаў, павысіць веды пчаляроў і агульны ўзровень гадоўлі гэтых карысных насякомых, дакладна захоўваць правілы карыстання хімічнымі сродкамі аховы раслін, каб не вытручваць пчол, дапамагаць пчалярам арганізаваць вандроўныя пасекі, узмоцніць ветэрынарную апеку над усімі пасекамі, павялічыць выраб пчалярскага абсталявання і прыладаў, павялічыць расплод племянных матак, праводзіць курсы на званне майстра-пчаляра, арганізаваць алімпіяды ведаў па пчалярству, устанавіць пункты сігналізацыі аб паяўленні спадзі, пры пасадцы дрэў пры дарогах, будынках, на няўдобіцах больш, чым дагэтуль, садзіць такія меданосы як: клён, ліпы, акацыі, явары і г.д. А ўсё гэта для таго, каб у нашым ваяводстве ў 1980 г. было сама меней 35 тысяч пчаліных сем'яў, якія давалі б нам 875 тон мёду, гэта значыць: па 25 кілаграмаў з кожнага вулея і амаль па паўтара кілаграма на кожнага з нас, жыхароў Беласточчыны.

(іс)

# Дзядзька з Плянты



Жыве ён у вёсцы Плянта, якая пасялілася на ўскраіне Белавежскай пушчы. Яму ўжо амаль 70 гадоў.

— Перажыў я за свой век гора-бяды, ой перажыў. У 1938 годзе якраз паспеў я пабудавацца, стаць на сваім. Прышла да нас нямчура, каб іх сумленне не пераставала паліць і ў пекле, усю нашу вёску пусціла з дымам. Колькі год прыйшлося жыць на ласкавым хлебе! Пасля вызвалення жыхары Плянты вярнуліся на папялішчы і, хто як змог, адбудавалі свае хаты, хлявы і ўсе іншыя будынкі. Цяпер разам са мною жыве тут 18 гаспадароў. Аб трагедыі вёскі напамінае толькі прыдарожны крыж. Корміць нас Белавежская пушча, чыгуначная станцыя ў Семяноўцы і не вельмі шчодрая тутэйшая зямля.

Я сваю гаспадарку аддаў братаваму сыну, бо які з мяне ўжо гаспадар. Сіл не хапае, а на дзяцей нам з жонкаю не пашчасцілілася. Пляменнік наш добры, малады, энергічны і стараецца ўсё рабіць па-сучаснаму. І нас не крыўдзіць. Колькі нам трэба для жыцця, усё дае. Дык і я не шкадую, што аддаў яму гаспадарку. Мая зямля ў яго руках дае больш карысці і яму, і дзяржаве.

З Канстанцінам Котам сустрэўся я ў час партыйнага чыну, які Нараўкаўская гміна ў гэтым годзе наладзіла якраз на дарозе ад Гарадзіска ў Плянту. Канстанцін Кот у партыі ніколі не быў.

— Я ў палітыцы, — прызнаецца шчыра, — ніколі не разбіраўся. Што іншае, калі дарогу рабіць. Яна людзям патрэбная, і гэта я разумею, дык пакуль змагу, шчыра дапамагаю. І на партыйныя чыны я заўжды прыходжу. У кампаніі заўсёды лепш: і папрацаваць, і павесяліцца.

(вр)

Фота аўтара

## З маёй званіцы

### МЕЛІЯРАЦЫЯ

Чаму так назвалі: меліярацыя? Мой дзед так расказваў. Калісь людзі найчасцей кароў пасвілі ў лесе, бо на пасбішчы была вялікая гразь. Не было дня, каб кароў з гразі не выцягвалі. Толькі хоча пярэстая злезці з грудка, каб скубануць балотнай траўкі, і ўжо, глядзіш, толькі рогі наверсе. Тады сходзіліся людзі. Хто за хвост, хто за рогі — цягнуць карміцельку на сухое. Цягалі, цягалі і ўрэшце пачалі раіцца, што рабіць далей. Вырашылі выкапаць равы, асушыць балота. Ды не ўсе згадзіліся. Што гэта паможа? — казалі іншыя. Так яны і раздзяліліся на дзве групы. Адны дружна ўзяліся за лапаты, асушылі сваё балота. Каровы тут больш не гразлі. А другія ўсё цягалі сваіх каровак і зайздросцілі працавітым суседзям. Гаварылі: добра зрабілі, яны мелі рацыю. Так яно і засталося. Як толькі людзі пакапаюць равы, асушаць балоты, усе кажуць: зрабілі меліярацыю. А мо гэта і не ад таго такая назва? Дзед жа мог і прыдумаць.

Не раз і я намучыўся каля застрагшай кароўкі. А потым людзі сходзіліся, збіралі подпісы за меліярацыю. Колькі было крыку! Адны былі за, другія ўпіраліся, як натурыстыя коні. Але большасць перамагла. Вядома, хто там хацеў капаць тыя равы, людзі стаялі горбай ды рагаталі, дзіваваліся, што нейкае страшыдла паўзе, а за ім роў застаецца. А потым прыйшлі трактары, павярнулі ўсё чорным дагары, секлі, капалі, толькі пыл страшэнны валіў на тым месцы, дзе чалавек не мог пралезці.

Ну і цяпер у нашых красуляў рогі наверсе. Ды толькі не з гразі яны тырчаць, а з травы. Абажрэцца, паганка, ды ляжыць, перажоўвае. А колькі іх! Дзе было тры, цяпер восем, дзесяць. Не дай бог, каб цяпер загразла! Хто яе выцягнуў бы? Гэта ўжо не скура і косці, як раней. І ўсё гэта дзякуючы той... ну... рацыі.

**А. Леўшук**

# GBS (George Baker Selection)



**ФОТА ПА ЗАКАЗУ**

Злева направа: I. Greuter, G. The, G. Baker, I. Hop, L. Boud, M. Schoen.
Заказвала Тэрэса Мячкоўская з Бельска.

## Куток практычных ведаў




### КАЛІ ПАЗНОГЦІ ЎРАСТАЮЦЬ У СКУРУ...

У некаторых людзей пазногці ног (асабліва вялікага пальца) урастаюць у скуру. Гэта вельмі балюча, але, на жаль, хвароба гэта (бо баліць) сустракаецца вельмі часта. Заключаецца яна ў тым, што бочныя краі пазногця глыбока ўрастаюць у мяккую тканку, а гэта выклікае запальны працэс і шчылінныя нарывы.

Найчасцей урастанне пазногцяў выклікае цесны абутак і неадпаведнае абрэзванне пазногцяў. Многія жанчыны „пераборшчваюць" і, каб не пашкодзіць панчох, абразаюць пазногці занадта коратка. А пазногці ног, асабліва вялікага пальца трэба абрэзваць так, каб пазногаць выступаў на 1—2 мм за контур пальца. Нельга таксама закругляць бочных частак пазногця, а тым больш нельга выразаць з яго бакавых трохвугольнікаў. Менавіта закругленне вольнага краю пазногця, г.зн. скарачэнне яго бакавых частак вядзе заўсёды да ўрастання пазногця.

Як толькі заўважыце першыя прыкметы пададзенай вышэй хваробы, трэба перш за ўсё змяніць абутак на больш свабодны. Трэба таксама два разы ў дзень мачыць ногі ў цёплым растворы марганцоўкі ці ачышчанай соды (лыжка соды на міску). Што датычыцца марганцоўкі, дык яе раствор падрыхтоўваецца наступным чынам: у бутэльку ўсыпаць 2 г крышталікаў і ўліць шклянку цёплай вады. Праз 24 гадзіны з гэтага раствору даліць да вады ў місцы столькі, каб атрымаць адпаведны колер.

Пасля таго, як памочыце ногі, варта спрабаваць усадзіць пад бакавыя часткі пазногця маленькі валік з ваты (таўшчынёю ў некалькі міліметраў), каб падняць пазногаць за пазногцевы вал. Калі гэта ўдасца, то трэба пратрымаць пазногці ў такім стане некалькі гадзін, а пасля змазаць ёдам пазногцевы вал.

Калі не зможаце гэтага зрабіць самі, звярніцеся за дапамогай да педзікюршы. У цяжэйшых выпадках лепш пагаварыць з хірургам.

**Эскулап**




Дарагое Сэрцайка, цяпер я ўжо немаладая жанчына, маю двое дарослых дзяцей. Жыццё маё і маіх дзяцей было цяжкое. Муж мой — п'яніца і гуляка, ніколі сям'ёй не цікавіўся, і ўвесь цяжар утрымання сям'і ад пачатку зваліўся на мае плечы. Так прамучыліся мы з гэткім мужам і бацькам больш пятнаццаці год і было б яно і далей таксама, бо кінуць мужа я не думала. Усё ж гэта бацька дзяцей. А ён, відаць, не пераймаўся гэтым, бо аднойчы заявіў, што выязджае далёка, але куды — не сказаў. У хаце нашай запанавала мірнае, спакойнае жыццё. А праз пяць год з'явіўся наш „гаспадар". Перапрашаў, прысягаў, што піць ужо больш не будзе, што будзе добрым мужам і бацькам. Ну, і астаўся. Хутка забыў сваю прысягу, але ўжо цяпер цярпець гэтае „пекла" я не захацела. І згадзіліся са мной таксама дзеці. Я ўзяла з мужам развод. Цяпер дзеці мае ўжо дарослыя — дачка выйшла замуж, а сын пайшоў у армію. Я асталася ў хаце адна. І пазнаёмілася з мужчынам, маладзейшы ён за мяне. Прыходзіў часта вечарам дахаты. Вельмі ветлівы, культурны, толькі здзіўляла мяне, што не хацелася яму ісці ні на шпацыр, ні ў кіно, казаў, у хаце адчувае сябе найлепш. А „сыпаў" камплементы, што я яму вельмі падабаюся, што ўрэшце спаткаў жанчыну, з якой хацеў ажаніцца, бо гэтае кавалерства яму ўжо надакучыла. Я верыла ўсяму гэтаму. Але аднойчы вечарам прыйшла да мяне жанчына. І высветлілася, што гэта яго жонка. Сказала, што ў іх двое дзяцей, і яны яшчэ ў школьным узросце. Мне стала прыкра, я сказала, што не ведала аб гэтым, і абяцала, што ад гэтага дня не хачу яго бачыць. Ён і сам не паяўляўся даўжэйшы час. Перажывала, аднак пастанавіла парваць з ім. І ён з'явіўся. Нясмела ўвайшоў у хату. Не выгнала я яго. Пасядзелі разам у гэты вечар, і я разгубілася. Не ведаю, што рабіць. Парай мне, Сэрцайка.

Ірэна

Ірэна, нагаравалася ты ў жыцці. Але дзеці вырасціла, яны сталі самастойнымі і ты спакойна жывеш. Ведаю, што адчуваеш ты самотнасць, бо дзеці свае ўжо справы маюць, але падумай, з кім жа ты намерваешся звязацца? У гэтага мужчыны двое дзяцей, яшчэ вучацца. Ці будзеш ты шчаслівай, разбіўшы гэтую сям'ю, адабраўшы мужа жонцы і дзецям бацьку? Хісткае гэта шчасце, калі яно збудуецца на крыўдзе іншых.

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астрон! Сніцца мне, што я еду аўтобусам (як бы экскурсія). Праз вокны аўтобуса я бачу: цячэ рака Вісла. Раптам аўтобус затрымаўся, і мы ўсе выйшлі з яго. Усе з гэтай экскурсіі ідуць ля самай ракі, а я са сваёй супрацоўніцай іду па высокім беразе, на якім расце прыгожая, зялёная трава. Раптам мая супрацоўніца хоча зыйсці туды, дзе ўсе ідуць, а я яе не пускаю і гавару ёй: „Не ідзі туды, такі высокі бераг і ты не затрымаешся, а ўляціш у ваду". Яна мяне не паслухала і вырвала руку сваю з маёй і пабегла ў дол, а я ў той момант паспела толькі ўхапіцца рукой за малы куст, які рос непадалёк мяне. Сяброўка мая не затрымалася на той дарозе, дзе ішлі ўсе, а проста ўляцела ў ваду. У рацэ вада была чыстая і я бачу, як яна топіцца ў гэтай вадзе, і крычыць „Падайце руку!", але ніхто не адважыўся ісці ў ваду і яе ратаваць. Тады я пачала крычаць: „Ратуйце!", і ў гэты момант праваднік нашай экскурсіі ўбег у ваду і пачаў яе ратаваць. Ці выцягнуў з вады, гэтага не помню.

Вераніка

Вераніка! З нейкай добрай справы могуць вынікнуць клопаты. Можа сапраўды гэта будуць большыя клопаты для вашай сяброўкі, бо не хацела яна ісці высокім берагам з пышнай зялёнай травой, не паслухала вас, ды і ўляцела ў ваду.

**Астрон**

## Кансультацыя юрыста

**Пытанне:** Пры падзеле супольнай маёмасці Г. былі прысуджаны ад К. сплаты. К. у вызначаным судом часе сплаціў частку сплат, але асталося сплаціць каля 30 тысяч зл., якіх Г. дабіваецца амаль два гады ўжо без поспеху. Ці можа ён патрабаваць ад К. працэнтаў? У рашэнні суда, якім прысуджаны сплаты аб працэнтах, аб гэтым не гаворыцца.

**Адказ:** Паводле арт. 359 цывільнага кодэкса працэнты належацца толькі тады, калі гэта вынікае з умовы паміж зацікаўленымі бакамі, з самага закону або з рашэння суда. У нашым прыкладзе належныя Г. сплаты прысуджаны рашэннем суда, які аднак справы працэнтаў не вырашыў, паколькі ў рашэнні ўпамінання аб працэнтах няма. Таму няма законных асноў, каб патрабаваць працэнтаў. Г. павінен быў на працягу двух тыдняў ад прачытання ў судзе рашэння напісаць прашэнне аб дапаўненні рашэння праз прысуджэнне законам прадбачаных працэнтаў на выпадак, калі б у акрэсленым судом часе К. не заплаціў належных Г. сплат. Г. павінен быў адразу, пасля таго, калі прайшоў тэрмін заплаты, накіраваць справу да судовага выканаўцы (каморніка).

## Ці ведаеце, што...

Сярэдняя працягласць жыцця ў СССР 70,4 года (калі гаварыць сумарна пра жанчын і мужчын). У час апошняга Усесаюзнага перапісу зарэгістравана 2,9 мільёна чалавек, якім больш чым 80 гадоў. У тым ліку 0,3 мільёна, якім 90 гадоў і больш, і звыш 19 тысяч чалавек, узрост якіх перавышае 100 гадоў.




Галоўным, што дапамагала людзям жыць і пераносіць ўсе выпрабаванні, была іх штодзённая планамерная барацьба з ворагам. Падземны гарнізон Аджымушкая выконваў сваю баявую задачу гэтак жа, як выконвалі яе ў гэты час тысячы іншых часцей і падраздзяленняў Чырвонай Арміі на ўсім тысячакіламетровым працягу фронту. Ён выконваў гэту задачу, хоць і не атрымліваў загадаў зверху і быў пазбаўлены сувязі са сваім камандаваннем.

Штаб гарнізона па-ранейшаму прыкладаў усе намаганні да таго, каб устанавіць сувязь з Вялікай зямлёй. Акрамя тых заклікаў, якія штодзённа і безвынікова перадаваліся па радыё, час ад часу накіроўваліся на сувязь групы разведчыкаў. Ім ставілі задачу — прабіцца праз кальцо немцаў, што асаджалі каменяломні, дайсці да партызан, а адтуль перайсці праз фронт і далажыць камандаванню аб барацьбе падземнага гарнізона. Але разведчыкі ішлі і ніколі не вярталіся назад. Відаць, калі нават ім удавалася дабрацца да сваіх, то вярнуцца назад яны ўжо не маглі.

А абарона працягвалася. Усё гэтак жа бесперапынна дзяжурылі ля амбразур меткія стралкі, і варта было ворагу з'явіцца ў полі іх зроку, ён падаў ад іх кулі. Нямецкія салдаты, а потым румынскія фашысты Антанеску, якія змянілі іх, днём усяляк пазбягалі з'яўляцца ў раёне каменяломняў. Днём і ноччу вялося пільнае і няспыннае назіранне за праціўнікам. Назіральныя пункты былі добра замаскіраваны і наладжваліся ў самых нечаканых для ворага месцах.

Адзін з такіх назіральных пунктаў знаходзіўся доўгі час у хляве на ўскраіне вёскі Аджымушкай, амаль у самым размяшчэнні немцаў і румын. Якраз пад гэтым хлявом, непадалёк ад паверхні зямлі, праходзіў адзін з падземных тунеляў. Па парадзе сваіх пастаянных „кансультантаў" — Мікалая Сямёнавіча Данчанкі і яго сына Колі — абаронцы каменяломняў прабілі столь тунеля менавіта ў гэтым месцы. Адтуліна, як і разлічваў Данчанка, выйшла прама ў хлеў. Дзірка ў падлозе была старанна замаскіравана, і з таго часу на гарышчы хлява заўсёды дзяжурылі назіральнікі падземнага гарнізона, якія прыносілі вельмі каштоўныя звесткі аб усім, што робіцца ў размяшчэнні праціўніка. Але неяк у хлеў выпадкова зайшлі некалькі румынскіх салдат, і адзін з іх нечакана праваліўся ў замаскіраваную адтуліну. Так чыстая выпадковасць прымусіла ліквідаваць гэты назіральны пункт.

Пастаяннае назіранне за праціўнікам давала магчымасць часам прадбачыць яго намеры і, галоўнае, давала гарнізону магчымасць весці актыўныя баявыя дзеянні. Паводле даных, якія дастаўлялі назіральнікі, у штабе распрацоўваліся планы начных вылазак.

Гэтыя вылазкі наладжваліся рэгулярна і абыходзіліся дорага ворагу. Глыбокай ноччу, калі немцы спалі, падземны гарнізон нечакана вырываўся наверх і атакоўваў ворага ў яго размяшчэнні, навязваў яму рукапашны бой. З гэтых начных вылазак абаронцы каменяломняў звычайна вярталіся ў свае падзямеллі з багатымі трафеямі, зброяй і прадуктамі харчавання, захопленымі на складах праціўніка, невялікім запасам вады, якую ў час бою паспявалі набраць спецыяльныя каманды. А здаралася, сюды прыводзілі і палонных фашыстаў. Немцы закладвалі мінныя палі ля выхадаў з падзямелляў, аблытвалі ўвесь раён каменяломняў драцянымі загародамі. Нягледзячы на ўсё гэта, вылазкі гарнізона працягваліся.

Пасля адной з такіх вылазак, асабліва ўдалай, у каменяломнях адбылося трагічнае здарэнне, якое абарвала жыццё камандзіра падземнага гарнізона палкоўніка Паўла Ягунова. У час гэтай вылазкі аджымушкайцы ўзялі шмат ваенных трафеяў, і ўся зброя, здабытая ў гітлераўцаў, як звычайна, была прынесена ў штаб. Раніцай, калі камандзіры сабраліся ў штабе на нараду, палкоўнік Ягуноў, аглядаючы захопленую зброю, узяў у рукі адну з нямецкіх гранат з доўгай драўлянай ручкай. Напэўна, граната была няспраўная — раптоўна адбыўся выбух, і палкоўнік Ягуноў упаў, забіты на месцы, а некалькі іншых камандзіраў атрымалі раненні. Гэта была цяжкая, непапраўная ўтрата — палкоўнік Ягуноў з першых дзён стаў душой усёй абароны, яе галоўным арганізатарам і кіраўніком. З воінскімі ўшанаваннямі абаронцы каменяломняў пахавалі свайго камандзіра ў адным з тунеляў, і з гэтага часу камандаванне абаронай прыняў на сябе выпрабаваны баявы афіцэр — падпалкоўнік танкавых войск Рыгор Бурмін.

Між тым, нядобрыя весткі прыходзілі па радыё з Вялікай зямлі. Становішча на франтах пагаршалася з кожным днём. Немцы, апамятаўшыся ад зімовых паражэнняў і падцягнуўшы новыя сілы, перайшлі ў наступленне.

*(Працяг будзе)*

# ТРЫБУНА чытачоў

## Вёска Дубіны ўжо ў горадзе

Едучы з Беластока праз Нарву ў Гайнаўку, праязджаеш праз вялікую вёску Дубіны. Калі ўедзеш у гэтую вёску, дык цяжка цяпер разабрацца, дзе вёска Дубіны, а дзе горад Гайнаўка. Вёска гэтая ўжо цалкам спалучылася з горадам. Дубіны — вёска вялікая, больш як 200 дамоў. Ёсць тут дзве крамы, злеўня малака, святліца, бібліятэка, васьмікласная школа, пошта, царква і некалькі прыватных паслуговых пунктаў. Жыхары перабудавалі сваю вёску і прыдалі ёй гарадскі выгляд. Палавіна дамоў — мураваныя, ёсць нават двухпавярховыя.

У мінулым годзе праз вёску была зроблена новая дарога, шырокая. Скончыліся ўжо крытычныя артыкулы пра дарогу ў Дубінах, што „не праехаць, не прайсці“. Цяпер дарога тут асфальтная, спалучаецца з вуліцай Дзяржынскага ў Гайнаўцы. Жыхары Дубін узяліся ўпрыгожваць свае сялібы. Ставяць прыгожыя платы, садзяць кветкі ў гародчыках.

Засталося толькі пралажыць тратуары па абодвух баках вуліцы, каб пешаходы не хадзілі сярэдзінай. Ноччу вёска асветлена і выглядае, як горад.

**Э. Вайсковіч**

## Першыя ў барацьбе — першыя ў працы

Пад такім лозунгам адбыўся справаздачна-выбарны сход гуртка нумар 3 ЗБоВіД у Беластоку. „Наш сёлетні сход, — гаварыў старшыня гуртка падпалкоўнік Генрык Кашуба, — адбываецца ў 60 гадавіну Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая змяніла свет“.

Гурток № 3 налічвае 610 асоб. І належыць да найбольш актыўных у Беластоку. Прысутны на сходзе намеснік старшыні Ваяводскага праўлення ЗБоВіД Мікалай Яканюк вельмі высока ацаніў працу гуртка.

Потым адбыліся выбары. Старшынёй зноў быў выбраны падпалкоўнік Генрык Кашуба, а яго намеснікамі Казімір Яцкевіч, Ян Калакоўскі і Васіль Петручук.

**В. П.**

## Новыя крамы

У апошні час бельскі „Сполэм“ адкрыў у горадзе новыя крамы. На вуліцы Дубічы, дзе стаяў маленькі драўляны кіёсачак, цяпер прыгожы мураваны павільён. У ім ёсць усе спажывецкія прадукты.

Вялікую, таксама спажывецкую, краму адкрылі на вуліцы Высоцкага. У тым жа будынку будзе адкрыты вялікі бар „Экспрэс“, які вельмі патрэбны гораду. На абсталяванне новага бара пойдуць сучасныя машыны, якія аблегчаць працу абслугі.

**І. Кірызюк**

## Закончыўся школьны год

Вучні, настаўнікі і бацькі падсумоўвалі сваю працу ў розных галінах. Некалькі слоў пра гэта ў зборнай гміннай школе ў Нараўцы. Спартсмены паказалі старанна падрыхтаваныя розыгрышы. Артысты пад кіраўніцтвам настаўніцы Ядвігі Карпюк далі агляд гадавых дасягненняў. Выступленне маладых самадзейнікаў зрабіла вялікае ўражанне на гледачоў.

Гарцэры правялі збор макулатуры, злому і ануч. Сабралі 1366 кг макулатуры, 618 штук шклянога посуду і 250 кг ануч на агульную суму 4.084 зл. Усё на пабудову цэнтра здароўя дзіцяці. Найбольшую актыўнасць у гэтым праявілі: Ю. Вількевіч з VI кл., Ю. Трусевіч з IV кл., Г. Дрозд з IV кл., М. Каліноўскі з VIII кл.

**А. З.**

## Пясок на вуліцы

У сувязі з рамонтам вуліцы 22 Ліпеня ў Бельску, усе машыны, якія разгружаюць вагоны на чыгунцы, кіруюцца на вуліцу Бранскую, Дубяжынскую і Высоцкага. Вуліцы маюць толькі брук. За кожным праездам машыны падымаецца такая хмара пылу, што няма чым дыхаць. Добра было б, каб гарадское камунальнае прадпрыемства пачало паліваць гэтыя вуліцы вадой.

**Мікалай Няплоха**

### РЭЧ ПАТРЭБНАЯ ДЛЯ ЎСІХ

Рэчка Арлянка ўжо даўно меліравана. Галоўны яе адрэзак, дзе найбольш вады, праходзіць праз лугі вёсак Тафілаўцы і Рутка. Ведаем, што на такіх рэчках робяцца гаці, інакш званыя плацінамі, якія служаць у час засухі для наваднення лугоў і бліжэйшых палеткаў.

Вёска Тафілаўцы на сваёй тэрыторыі мае аж чатыры плаціны, а Рутка на сваёй тэрыторыі аніводнай. А плаціны такія патрэбныя ўсюды. Нават запланавалі адну плаціну каля вёскі Рутка. Варта аб гэтай справе паклапаціцца. Гэта вельмі паможа лугам вёскі Рутка.

**М. Панфілюк**

### ІНІЦЫЯТЫВА ПАТРАБУЕ ДАПАМОГІ

У 20-ым нумары „Нівы“ ад 15 мая гэтага года карэспандэнт з Сакольшчыны напісаў пра распачатую пабудову рамізы ў Паўднёвым Востраве, называючы прозвішча ініцыятара Яўтенія Жамойды.

Менавіта я, Яўгень Жамойда, хачу высняціць, што такая ініцыятыва ў нас фактычна нарадзілася, але пабудова рамізы яшчэ не пачалася, бо справа напатыкае на розныя цяжкасці. Справа ўжо цягнецца трэці год. Мы, пажарнікі ОСП з Вострава, звяртаемся з просьбай да пажарнай камендантуры ў Беластоку, каб нам памаглі распачаць пабудову нашай рамізы.

Таксама просім старшыню гміннай ОСП у Крынках інжынера Вячэслава Пратасевіча і начальніка гміны ў Крынках, каб нам памаглі. Пажарнікі ў Востраве вельмі адданы гэтай справе, памогуць у пабудове, звязуць матэрыял, жвір — усё грамадскім чынам. Каб улады толькі ліквідавалі фармальныя цяжкасці.

ОСП у Паўднёвым Востраве.
**Яўген Жамойда**
старшыня пажарнай каманды

## Канцэрт у Нараўцы

У сувязі з 30-годдзем РСВ „Прэса-Кніжка-Рух“ адбыўся ў Нараўцы канцэрт варшаўскіх артыстаў. Амаль чатыры гадзіны (бо было два канцэрты), жыхары гміны правялі час у добрым настроі. У праграме былі песні, гумар, сатыра. Білеты закупілі мясцовыя прадпрыемствы, арганізатарам быў гмінны цэнтр культуры.

**А. З.**

## Сустрэча

У Дубічах Царкоўных адбылася сустрэча І сакратара гміннага камітэта ПАРП Васіля Сегеня і старшыні ЗСЛ Аляксея Тамашука з перадавымі сялянамі Дубіцкай гміны. Сустрэча адбылася ў мясцовым ГОК-у. Найлепшыя гаспадары атрымалі значкі „Заслужаны для Беласточчыны“, гэта Рыгор Рута з Грабаўца і Міхась Тамашук са Старакорніна.

Пасля вучні старэйшых класаў дубіцкай школы выступілі з п'есай „Старыя“ С. Яновіча. Пастаноўка вельмі спадабалася гледачам. Паставіла яе настаўніца беларускай мовы Ніна Панфілюк. На заканчэнне іграў калектыў „Рэзананс“ з мясцовага ГОК-у. Усе гулялі весела.

**М. Панфілюк**

## Гайнаўскі банк

Спулдзельчы банк у Гайнаўцы ў маі бягучага года перайшоў ў новае памяшканне на вуліцы Вызвалення. Цяпер тут прасторна і прыемна. Людзі могуць спакойна пачакаць і пасядзець, калі трэба. А наведвальнікаў у банку бывае па некалькі соцень у дзень. У апошні час паслугі банка карыстаюцца вялікай папулярнасцю сярод гаспадароў, бо банк дае крэдыты на жывёлагадоўлю і развіццё сельскай гаспадаркі.

**Э. Вайсковіч**

### НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

У Драгічыне гаспадар, едучы возам, зваліўся з яго на зямлю і ў выніку гэтага апынуўся ў бальніцы.

А ў Саколцы чалавек ехаў матацыклам, не маючы права язды. На польнай дарозе ударыў у драцяны плот і пакалечыўся.

У Бельску матацыкліст наехаў на 76-гадовага чалавека, які ехаў роварам. Старога паранілі, і ён у бальніцы.

У Сухаволі „Ныса“ наехала на паўтарагадовае дзіця, якое блыталася па вуліцы без дагляду дарослых.

## З песняй і п'есай па Беласточчыне

Беластоцкі хор „Каласкі“ і драматычны гурток БІКТ распачалі паездкі па Беласточчыне. Выступалі ў Мілейчыцах і Сухавольцах, потым у Літвінавічах.

Хор мае багаты рэпертуар, а драматычны калектыў выступае з п'есай Янкі Купалы „Прымакі“ і „Мараль Наталлі Зотавай“ Іды Эвальд.

**Дубінка**

## Адпачыць у Супраслі

Супрасль з прыгожымі лясамі Кнышынскай пушчы вакол — мясцовасць цікавая ў кожную пару года. Супрасльскія помнікі культуры скрываюць у сабе многа гістарычных загадак. Добры мікраклімат дазваляе адпачываць, а ўзгоркі і даліны супрасльскія заахвочваюць да турыстычных вандровак. На дадатак рэчка Супрасль і Сакалда прыцягваюць аматараў плавання.

У мястэчку сезон прадаўжаецца ўвесь год. У мінулым годзе ПТТК абслужыў 16 тысяч 396 асоб. Усе яны начавалі на прыватных кватэрах. Экскурсіі ў Супрасль былі ў асноўным з цэлай краіны. Зімою супрасльскі ПТТК арганізуе кулікі, з якіх у мінулую зіму карысталася 5 тысяч асоб.

Супрасль наведалі таксама замежныя турысты з 13 краін свету. Летам тут на калоніях адпачываюць дзеці і моладзь. На суботы і нядзелі прыязджае ў сярэднім па 2.500 асоб з Беластока. Мясцовасць становіцца ўсё больш вядомай ва ўсёй краіне. Супрасльская турыстыка ўвайшла і ў лес. Да 1980 года мясцовае надлясніцтва плануе загаспадарыць турыстычна наступныя мясцовасці Супрасльскай гміны: Цілічанку, Ялоўку, Краснае, Кшэменне, Рэмучэва, Чаўнова, Пулька і Сакалду. На трасе Агароднічкі-Супрасль і Супрасль-Сакалда паяўляецца штораз больш розных турыстычных абсталяванняў, як сталы, лавы, вогнішчы, санітарыяты, пляцоўкі і т.п. І штораз больш турыстаў выязджае на гэтыя трасы.

У апошні час паявілася новая форма турызму ў Супраслі, гэта байдарачныя паходы па рэчцы Супрасль і Сакалда. Адбываюцца таксама праезды вазамі па Кнышынскай пушчы. Турыстыка супрасльская пачынае развівацца вельмі дынамічна. Гміна ўкладае многа грошай і старання, каб палепшыць гастраномію і начлежную базу.

(гай)

## Сустрэча трох пакаленняў

У Чаромсе кожны год арганізуецца многа сустрэч і адзначаюцца важнейшыя гадавіны. А вось гэтая сустрэча адбылася ўпершыню. Ініцыятарам былі: гурток вясковых гаспадынь, гмінная рада жанчын, пенсіянеры і ўсе рады прафсаюзаў чаромхаўскіх чыгуначных устаноў.

Сустрэча адбылася з нагоды Дня маці.

Арганізатары запрасілі 60 асоб. Прыйшло 44. Прыйшлі сюды жанчыны-маці ў розным узросце. Наймалодшай была Зіна Маркевіч — 25 год, а найстарэйшай — Марыя Салюк, якой ужо 98 гадоў. Як мне сказалі начальнік гміны і актывістка чаромхаўскага гуртка вясковых гаспадынь, гэта была сустрэча трох пакаленняў.

З прывітальным словам выступіў начальнік гміны мгр інж. Мікалай Тэлентэюк, які пажадаў усім прысутным многа здароўя, шчасця і самых выдатных поспехаў у працы.

Пасля старшыня гміннай рады жанчын К. Вайдакоўская расказала аб дзейнасці чаромхаўскіх жанчын за апошні перыяд.

У мастацкай частцы выступілі з вершамі і песнямі гарцэры гміннай школы ў Чаромсе, якія таксама сваім мамам і бабулям уручылі кветкі. І тут хачу адзначыць, што многія з прысутных плакалі ад хвалявання.

Самым цікавым пунктам урачыстай сустрэчы было тое, як нашы мамы выконвалі песні і дэкламавалі вершы. Гэта была іх мастацкая частка. Тут не было акцёраў, кожны з прысутных выступаў.

Удзельнікі вельмі дзякавалі за арганізаванне сустрэчы і прасілі, каб яны паўтараліся.

**Ул. Сідарук**

### У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „КНЫШЭВІЦКІЯ ПРАБЛЕМЫ“, „Ніва“ № 19/1106 ад 8 мая 1977 года.**

**Адказвае:**

**PRZEDSIĘBIORSTWO PAŃSTWOWEJ KOMUNIKACJI SAMOCHODOWEJ W BIAŁYMSTOKU.**

Odpowiadając na nadesłany wycinek prasowy pt. „Knyszewickie problemy” z 19/1106 numeru tygodnika „Niwa” z dnia 8 maja 1977 roku, dotyczącego budowy przystanku autobusowego w Knyszewiczach — Zarząd Przedsiębiorstwa PKS w Białymstoku informuje, że:

— Pismem nr 8054-1/77 z dnia 20 kwietnia 1977 roku Naczelnik Gminy w Szudziałowie zlecił na koszt Urzędu Gmny budowę wspomnianego przystanku, którego realizacja budowy nastąpi w kolejności przyjętych zleceń na budowę.

— Obecnie służba PKS przystąpiła do opracowania niezbędnej dokumentacji technicznej.

I-szy Z-ca Dyrektora
mgr Sanisław Dembowski

**Да заметкі „ДАЛЁКАЯ СУПОЛКА“, „Ніва“ № 20/1107 ад 15 мая 1977 года.**

**Адказвае:**

**BIAŁOSTOCKI ZWIĄZEK SPÓŁEK WODNYCH BIURO W BIAŁYMSTOKU.**

W związku z notatką prasową pt. „Daleka Spółka”, zamieszczoną w tygodniku „Niwa” nr 20 z dnia 15 maja 1977 roku, Białostocki Związek Spółek Wodnych wyjaśnia, że sprawa inkasowania opłat była omawiana na Walnym Zgromadzeniu Spółki Wodnej „Tyniewicze” w Narwi w dniu 8 lutego 1977 roku.

Powierzenie sołtysom inkasowania składek na rzecz spółki wodnej może być dokonane tylko przez Naczelnika Gminy — co zostało dokładnie omówione w Wytycznych WZiR nr EM-4451/1/75 z dnia 5 listopada 1975 roku. Ponieważ z taką formą rozliczeń finansowych wiąże się wykonanie dodatkowych czynności rachunkowych przez dział księgowości Urzędu Gminy, dlatego też Naczelnicy Gmin nie podjęli takich decyzji. Z konieczności rolnicy muszą opłacać składki w Bankach SOP lub przez pocztę, co w wielu wypadkach jest dla nich znacznym utrudnieniem.

Informujemy, że zarówno Zarząd BZSW jak i tutejsze biuro wielokrotnie postulowało do władz wojewódzkich o uregulowanie tego problemu, jednak do chwili obecnej sprawa ta nie została rozwiązana.

Podzielamy pogląd czytelnika „Niwy”, że przekazanie sołtysom sprawy inkasowania opłat na rzecz spółki wodnej byłoby dla rolników dużym ułatwieniem w regulowaniu przedmiotowych należności.

Odnośnie terminów przyjmowania wpłat przez Bank informujemy, że nie dokonywaliśmy w tym względzie żadnych ograniczeń, a w sprawy organizacji pracy tej jednostki nie możemy ingerować.

Kierownik
mgr inż. Jerzy Pączkowski

**Да публікацыяў „ДВА РАЗЫ ТАПЧЫКАЛЫ“, „Ніва“ № 19/1106 ад 8 мая 1977 года.**

**Адказвае:**

**URZĄD GMINY W ORLI.**

W sprawie budowy świetlicy we wsi Topczykały wyjaśniamy, że w 1975 roku zwróciliśmy się z pismem do Komisji Planowania przy Urzędzie Wojewódzkim o zezwolenie na budowę świetlicy we wsiach Topczykały i Paszkowszczyzna. Prośba nasza została załatwiona odmownie z uwagi na to, że świetlice wiejskie nie spełniają zadań kulturalno-wychowawczych. W obecnym czasie tylko świetlice z prawdziwego zdarzenia mogą spełniać doniosłą rolę. Na budowę świetlic z prawdziwego zdarzenia, gmina nie posiada funduszy z uwagi na to, że budowa świetlic nie została objęta planem inwestycyjnym.

W związku z powyższym problem budowy świetlicy we wsi Topczykały w 1977 roku nie może być rozwiązany.

Z up. Naczelnika Gminy
Klaudia Orda

**Да заметкі „ХАЧУ ВУЧЫЦЦА НА ГАСПАДАРА“, „Ніва“ № 20/1107 ад 15 мая 1977 года.**

**Адказвае:**

**URZĄD WOJEWÓDZKI W BIAŁYMSTOKU KURATORIUM OŚWIATY I WYCHOWANIA.**

W odpowiedzi na Wasze pismo z dnia 27 maja 1977 r. w sprawie notatki prasowej pt. „Chcę uczyć się zawodu rolnika” z nr 20 tygodnika „Niwa” z dnia 15 maja 1977 r. Kuratorium Oświaty i Wychowania w Białymstoku uprzejmie wyjaśnia:

Przy Państwowym Ośrodku Maszynowym w Narwi istnieje filia Zasadniczej Szkoły Zawodowej w Hajnówce, prowadząca kształcenie w zawodach mechanik-kierowca pojazdów samochodowych, a nie w zawodzie mechanik maszyn rolniczych, czy rolnik-mechanizator. W związku ze stwierdzeniem braku właściwych warunków do kształcenia teoretycznego i praktycznego w w/w zawodzie nabór do ZSZ w/w filii został wstrzymany do czasu zapewnienia przez POM w Narwi prawidłowych warunków do nauki.

W związku z powyższym w Narwi nie było możliwości uzyskania kwalifikacji mechanizatora-rolnika. W tej specjalności kształci wiele szkół na terenie naszego województwa. Najbliższa — Zasadnicza Szkoła Mechanizacji Rolnictwa w Michałowie ul. Gródecka 21. Przy szkole jest internat. Adresy pozostałych szkół można znaleźć w informatorze, który jest do wglądu w Zbiorczej Szkole Gminnej w Narwi.

Realizując uchwały Biura Politycznego KC PZPR oraz Komitetu Wojewódzkiego Partii w sprawie rozwoju kształcenia kadr dla rolnictwa, projektuje się utworzenie w Narwi od 1 września br. Zasadniczej Szkoły Rolniczej.

Zatem istnieją wszelkie możliwości uzyskania kwalfikacji rolnika — od 1 września również w Narwi.

Wicekurator Oświaty i Wychowania
mgr Stanisław Halicki

„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

# СЛУП

— Я ўпаўнаважаны прад'явіць санкцыі ў сувязі з тым, што вамі ў парушэнне інструкцыі знесены слуп, які належаў нашаму ведамству.

— Вы маеце на ўвазе той слуп, што стаяў на трасе пабудаванай намі дарогі? Заканамерна, мы мусілі яго знесці.

— Заканамерна, гэта па-вашаму. Па-нашаму — процізаконна.

— Мы дзейнічалі ў строгай адпаведнасці са схемай, якая іменна ў гэтым месцы прадугледжвае дарогу.

— Наша схема, са свайго боку, якраз у гэтым месцы прадугледжвае слуп.

— Гм. З двух можа быць нешта адно: калі дарога, то не слуп, калі слуп, то не дарога.

— Слуп, зразумела.

— Чаму слуп? Што, па-вашаму, важней: слуп ці дарога?

— Вам дарога, нам — слуп.

— Па дарозе ездзяць, а якія, скажыце, былі функцыі ў вашага слупа? Колькі помніцца, ён ужо быў гнілы, трымаўся на падпорках. Калі ён што і рабіў, дык толькі перашкаджаў.

— Пакуль функцыі ніхто не адмяняў, функцыі застаюцца функцыямі. Апраўдваючы вышэйадзначаны слуп, я не магу дапусціць...

— Што ж, па-вашаму, зноў паставіць слуп пасярод дарогі?

— А па-вашаму, пачне кожны, каму ўздумаецца, самавольна зносіць слупы?

— Паслухайце. Калі вам ужо так патрэбен той няшчасны слуп...

— Я прасіў бы не забывацца: у свой час гэты слуп паставілі па рашэнню аднаго паважанага ведамства.

— Даруйце, сапраўды, шаноўны слуп. Дык калі ўжо ён для вас быў такі дарагі, то мы вам яго, так і быць, адновім. Але паводдаль, узбоч дарогі, каб не замінаў. І няхай сабе на здароўе працягвае свае функцыі.

— Ваш варыянт наўрад ці прыймальны. Гэта непазбежна пацягне за сабой парушэнне структуры і запатрабуе дадатковага вывучэння, абгрунтавання і ўзгаднення. Нарэшце, справа не толькі ў слупе і, можа, не так у слупе, як у прэстыжы.

— Ды ваш гэты прэстыжны слуп скора сам па сабе паваліўся б, ад ветру.

— Вецер — стыхія, ён ні нам ні вам не падпарадкаваны. Вецер — асобная гаворка. У нашым жа выпадку — факт грубейшага самаўпраўства з боку вашага ведамства над слупом нашага ведамства і будзьце ласкавы трымаць адказ у адпаведнасці з інструкцыяй...

Міжведамасныя спрэчкі аб слупе працягваюцца...

**Герман Кірылаў**



### ПРАВІЛЬНАЯ ДУМКА

— Я думаю, што калі ідзе дождж, кароў трэба трымаць пад павецца.

— Гэта ж чаму?

— Каб вада не трапіла ў малако.

ГУМАР З

### ПРЫЧЫНА

— Чаму гэта ты, кум, як п'еш гарэлку, заплюшчваеш вочы?

— Бачыш, куме, я прысягнуў жонцы, што на гарэлку ніколі глядзець не буду.

# НІЎКА



### РАЗЛІЛОСЯ

Міколка ўпершыню ўбачыў мора. Здзіўлена:

— І як яно такое вялікае разлілося?



## МІНІВЕРШЫ

### ЛЯСНЫ ЎМЕЛЕЦ

Базу ён падвёў пад лес,
Да сяго-таго падлез,
Ведаў — ні на грам пра лес,
А ў вучоныя пралез.
У кішэнь чыю залез? —
Абышлося ўсё за... лес.

**Іван Курбека**

### ПЕРАМЫЛІ...

*Здаў з тканіны натуральнай*
*Мыць кашулю... Вер — не вер:*
*Атрымаў учора з пральні...*
*Рукавы два і каўнер.*

**Мікола Вяршынін**

### ХІТРЫ СЦЯПАН

Сцяпан у гандлі вопыту набраўся:
Шмат год рабіў — ні разу не папаўся.
— Начальству хабар ён, відаць, даваў!?
— Не, проста наш Сцяпан не краў!

**Фёдар Троіцкі**



**Яго лічылі птушкай высокага палёту. А выявілася, што ён звычайны стрэляны верабей.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Прывёў аксакал свайго сына ў мясную лаўку і кажа гаспадару:

— Зрабі ласку, вазьмі майго сына да сябе вучнем. Ён добры хлопец: возьме сабе косці, пакіне табе мяса.

Афандзі, які ў гэты момант быў у лаўцы, сказаў з усмешкай аксакалу:

— Вы, мабыць, з месяца зваліліся, бацька. Калі ваш сын будзе забіраць косці, дык мяснік прагарыць — ён жа з касцей мяса робіць...

* ★ *

— Мой муж стаў злосным грабежнікам. Уяві сабе, што толькі ўчора ён апустошыў скарбонку свайго сына.

— Няўжо гэта ён? Які сорам!

— Няма нічога дзіўнага, ён жа абяцаў мне, што праз тыдзень у яго знойдуцца грошы, каб разлічыцца за капялюшык, пра які я так марыла.

* ★ *

У этнаграфічным музеі гід гаворыць:

— Перад вамі шкілет дыназаўра, які жыў 80 мільёнаў 18 гадоў таму назад.

— Дзіўна! — усклікнуў адзін з наведвальнікаў музея. — Як гэта вы з такой дакладнасцю ўстанавілі ўзрост жывёлы?

— Гэта вельмі проста, — адказаў гід. — Калі я прыйшоў сюды працаваць, то мне сказалі, што дыназаўру 80 мільёнаў гадоў, а я ўжо тут працую васемнаццаць гадоў.

### НЕ ЧУЎ

— Ці чулі вы, як я стукаў у вашу столь? — пытае дацэнта Скока прафесар Кузачка.

— Не, у нас свайго шуму хапае, — адказвае той.



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Веры і Марысі Манцюк з Мікуліч змяшчаем песню*

### ЖУРАВЛИ

**Стихи Р. Гамзатова, перевод с аварского Г. Гребнева, музыка Я. Френкеля**

Мне кажется порою, что солдаты,
С кровавых не пришедшие полей,
Не в землю нашу полегли когда-то,
А превратились в белых журавлей.

Они до сей поры с времен тех дальних
Летят и подают нам голоса.
Не потому ль так часто и печально
Мы замолкаем, глядя в небеса.

Летит, летит по небу клин усталый,
Летит в тумане на исходе дня,
И в том строю есть промежуток малый,
Быть может это место для меня.

Настанет день, и с журавлиной стаей
Я поплыву в такой же сизой мгле,
Из-под небес по-птичьи окликая
Всех вас, кого оставил на земле.

Мне кажется порою, что солдаты,
С кровавых не пришедшие полей,
Не в землю нашу полегли когда-то,
А превратились в белых журавлей...



# КУРЁЗЫ

### МІЛЬЯНЕРУ І МОРА ПА КАЛЕНА...

Амерыканскаму мільянеру Дэвіду Левіну, якому за 58 гадоў усё надакучыла, раптам прыйшла ў галаву арыгінальная думка. Ён, нарэшце, прыдумаў, чым пазабавіцца. У Нью-Йоркскім Мэдзісон-сквергардэне ён правёў семінар на тэму: „Як развесціся з жонкаю пры мінімальных грашовых выдатках". Маючы багаты ўласны вопыт у гэтым далікатным пытанні, Дэвід Левін паведаміў сваім слухачам, што апошні развод з жонкаю каштаваў яму ўсяго 60 тысяч долараў.

Дурацтва распуснага мільянера падхапілі газеты. „Нью-Йорк таймс", напрыклад, надрукавала сенсацыю: Дэвід Левін за арганізацыю семінара і наём памяшкання выдаткаваў... 100 тысяч долараў! Як бачыце, развод аказаўся дзешавейшым за „вопыт" ачмурэлага ад мільёнаў распусніка.

### СЫТНЫ АБЕД

У адной знакамітай дамы, вельмі эканомнай, абедаў Расіні. З-за стала ён устаў зусім галодны. Гаспадыня ветліва сказала яму:

— Прашу вас яшчэ як-небудзь прыйсці да мяне абедаць.

— З задавальненнем, — адказаў ён, — хоць зараз!

### ФАТОГРАФ

Адзін фатограф у Рыо-дэ-Жанейра, заўважыўшы, што цікавасць публікі да яго работ недастатковая, каб забяспечыць яму бязбеднае існаванне, вывесіў у вітрыне свайго атэлье наступную аб'яву: „Самы лепшы і на любы густ падарунак — гэта павелічэнне вашай сям'і. Наш хатні фатограф зробіць гэта чыста і дакладна ў любы зручны для вас час".




**Не задзірай нос, калі пра цябе сказалі: „Ён мае галаву на плячах". Можа, гэта была проста канстатацыя факта.**